№ 1 (73)
Студзень 2001

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"



Фота "ПнВ"

# Мы прагнем зьменаў!

Вось і скончыўся, адыйшоў, адляцеў у нябыт год этапны, пераменны — дзьвюхтысячны. Але — этапны, пераменны для ўсяго чалавецтва, для планеты Зямля, ды не для Беларусі. Пад словам "перамены" звычайна разумеюцца зрухі да лепшага, а ў нас, калі і былі зьмены, дык толькі да горшага. Рэжым Лукашэнкі ўмацаваўся, абраўшы ў 2000-ым годзе "пад сябе" парламент, які не валодае ніякімі правамі і магчымасьцямі, які не прызнаны ў дэмакратычным сьвеце, нелегітымны, як і сам Лукашэнка. Краіна працягнула свой шлях да эканамічнае прорвы — крызіс ахапіў усе галіны эканомікі. Жыцьцё людзей яшчэ больш пагоршылася, хоць ужо летась здавалася, што далей няма куды. Узмацнілася палітычная ізаляцыя Беларусі — фактычна, з дыктатурай падтрымліваюць стасункі Расія, некаторыя краіны СНД ды такія ж самыя таталітарныя рэжымы — кубінскі, іракскі, паўднёвакарэйскі, лівійскі...

Пагоршылася ў Беларусі і сітуацыя з захаваньнем правоў чалавека. Улады не дазволілі грамадзянам краіны адзначыць нават чарговую гадавіну з дня прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Мітынгі ж, дэманстрацыі, пікеты, іншыя акцыі апазіцыі па створанай Лукашэнкам традыцыі нязьменна заканчваліся арыштамі іх удзельнікаў. 25 сакавіка ў Мінску ўлады наладзілі сапраўднае паляваньне на ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі. Было арыштавана больш за 500 чалавек! У тым ліку замежныя грамадзяне, асобы, якія валодаюць дыпламатычнай недатыкальнасьцю, праваабаронцы і 36 журналістаў акрэдытаваных у Беларусі сродкаў масавай інфармацыі. Цэнтр Мінску ў гэты дзень нагадваў акупаваны горад: міліцыянты стаялі праз кожныя 10-12 метраў уздоўж праспекту Скарыны, а ў дварах стаялі бэтээры... 12 лістапада падчас маладзёжнай акцыі "Пераменаў!" было арыштавана 112 чалавек, большасьць з якіх непаўнагадовыя. Адзіным крытэрыем дзеля арышту ў той вечар быў малады ўзрост, і таму ў загадзя падрыхтаваныя сьпецназаўцамі аўтобусы, а потым у прыёмнікі-разьмеркавальнікі патрапіла шмат выпадковых людзей.

Парламенцкія выбары ўа Беларусі прайшлі па Выбарчым кодэксе, які міжнародны супольнасьцю быў прызнаны недэмакратычным. Апазіцыйныя партыі прынялі рашэньне байкатаваць фарс, наладжаны Лукашэнкам. Пад перасьлед за ўдзел ў кампаніі байкоту патрапілі больш за 200 чалавек. Выбарчы кодэкс не забараняў заклікаць выбаршчыкаў да байкоту. Але ўлады, кіруючыся арт. 167.3 КаАП РБ, затрымлівалі людзей, якія агітавалі за байкот. Арышты і суды ішлі па ўсёй Беларусі да самага дня выбараў – 15 кастрычніка і пасьля. Улады наўмысна зацягнулі публікацыю Закону РБ "Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь", прынятага Палатай прадстаўнікоў яшчэ 22 чэрвеня 2000г. і зацьверджанага

(Працяг на стар. 7)

## Хроніка

***4 студзеня*** **ў Чыгуначным судзе г. Віцебску адбыўся заключны разгляд адміністратыўных матэрыялаў, складзеных на ўдзельнікаў несанкцыянаванага пікету 10 сьнежня сябroў АГП *Алену Залескую, Сяргея Васенку, Дзьмітрыя Мускага і Анатоля Захарава*. Абвінавачаньне прад'яўлялася па арт 167 ч.1 і ч. 2 КаАП РБ, і судзьдзя Сьвятлана Туфан вынесла рашэньне прызначыць наступныя пакараньні:**

**1. *А. Залескай* – штраф у 150 мінімальных заробкаў;**

**2. *С. Васенку* – штраф у 150 мінімальных заробкаў;**

**3. *Дз. Мускаму* – папярэджаньне**

**4. *А. Захараву* – папярэджаньне.**

***5 студзеня*** **атрымалі позвы ў суд Ленінскага раёну г. Брэсту ўдзельнікі пікету 10 сьнежня: *Уладзімір Вялічкін, Яўген Бяласін, Сяржук Бахун, Алег Дыдышка і Кірыла Данько*. Яны абвінавачваюцца ў парушэньні арт. 167-1 ч.1, арт. 167-1 ч.2 і арт. 166 КаАП РБ. Напярэдадні Новага году спадароў Бяласіна і Бахуна наведалі супрацоўнікі міліцыі і прапанавалі ім падпісаць пратаколы адміністратыўнага правапарушэньня, якія не былі складзеныя падчас затрыманьня і напрацягу 24 гадзінаў зьвяволеньня ў ізалятары часовага ўтрыманьня Ленінскага РУУС г. Брэста. Суд над удзельнікамі акцыі, прысьвечанай гадавіне абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прызначаны на 9 студзеня 2001 году на 14.30 у Ленінскім раённым судзе г. Брэсту.**

(Працяг на стар. 6)

# Чарговае папярэджаньне "Вясьне"

***27 сьнежня Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна" атрымала паўторнае пісьмовае папярэджаньне, падпісанае начальнікам Упраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь М. Сухініным.***

У папярэджаньні сказана (цытуем на мове арыгіналу): "Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь у адрас кіруючага органа Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна" 26.10.2000 было вынесена пісьмовае папярэджанне. Аднак да цяперашняга часу ніякай інфармацыі ў Мінюст Беларусі не паступіла. Прапануем у двухтыднёвы тэрмін даць адказ з прадастаўленнем адпаведнага пратаколу аб устраненні меўшых месца парушэннях дзеючага заканадаўства, а таксама Статута азначанага аб'яднання..."

ГА ПЦ "Вясна" сьцьвярджае, што адпаведнае рэагаваньне на папярэджаньне ад 26 кастрычніка было накіраванае ў Мінюст Беларусі ў належны тэрмін, але прычыну таго, чаму яно не было атрыманае Мінюстам, пакуль вытлумачыць немагчыма.

Далей у дакуменце, які атрымала ГА ПЦ "Вясна" гаворыцца: "Адначасова паведамляем, што ў выпадку паўторнага на працягу году ўчынення дзеянняў, за якія ўжо выносілася пісьмовае папярэджанне, можа быць узнята пытанне аб ліквідацыі аб'яднання. Адсутнасць адказу ў дадзеным выпадку дае падставы ініцыяваць пытанне аб ліквідацыі грамадскага аб'яднання".

ПЦ "Вясна" зьбіраецца высьветліць прычыны таго, чаму ліст з рэагаваньнем ня быў атрыманы Мінюстам, а таксама адстойваць свае права на існаваньне і далейшую дзейнасьць.

# Яшчэ ня позна адумацца

## *9 студзеня судовыя выканаўцы апячаталі частку абсталяваньня друкарні "Мэджык"*




**Падчас прэс-канферэнцыі — Ю.Будзько, І.Сярэдзіч, П.Жук.**

Рашэньнем суда абсталяваньне выдавецтва "Мэджык" павінна пайсьці на пакрыцьцё запазычанасьці Беларускага фонду Сораса, сума якой складае 78 тысячаў даляраў ЗША. "Тое, як улады абыходзяцца з прыватнай друкарняй, у якой друкуецца каля 20 незалежных газетаў, у тым ліку такія вядомыя, як "Народная воля", "Белорусская деловая газета", "Наша Свабода", "Рабочы", — ставіць пад пагрозу існаваньне ня толькі "Мэджыка", але і іншых нешматлікіх недзяржаўных друкарняў. Любая з іх у любы момант можа апынуцца пад пагрозай страты ліцэнзіі. Відавочна, што перад будучымі прэзідэнцкімі выбарамі ўлады разгарнулі шырокую, усеабдымную кампанію з мэтаю паставіць пад татальны кантроль усе суб'екты публічнай дзейнасьці, найперш сродкі масавай інфамацыі, а таксама тэхнічныя службы, якія забясьпечваюць дзейнасьць СМІ", — канстатуе Беларуская асацыяцыя журналістаў.

11 студзеня ў Мінску Беларуская асацыяцыя журналістаў правяла прэс-канферэнцыю з нагоды падзеяў, якія разгарнуліся вакол прыватнай друкарні "Мэджык". У прэс-канферэнцыі прынялі ўдзел дырэктар "Мэджыка" Юры Будзько, галоўныя рэдактары газетаў "Народная воля" — Іосіф Сярэдзіч і "Наша Свабода" — Павел Жук.

***З выступу Юрыя Будзько:*** "9 студзеня на фірму "Мэджык" прыйшлі судовыя выканаўцы, якія павесілі пломбы на абсталяваньне. На маё пытаньне: "Навошта гэта трэба?" яны адказвалі: "Мы ня ведаем, адзінае, што ў нас ёсьць, — гэта загад павесіць пломбы". Пры гэтым адзін судовы выканаўца ўвесь час выскокваў у калідор з сотавым тэлефонам і раіўся з некім. У выніку на цяперашні момант на фірме "Мэджык" дзейнічае адна машына – друкарскі станок, які адзін друкуе ўсе 20 газетаў. Але мы пазбаўленыя магчымасьці вырабляць паліграфічныя пласьціны, якія вымушаныя рабіць у іншым месцы. Сітуацыя наступная: газеты мы працягваем друкаваць, але рабіць гэта нам стала нашмат складаней. Па-першае, мы церпім дадатковыя фінасавыя страты, а кошты на друк газетаў падымаць ня можам. Калі такое становішча будзе захоўвацца некалькі месяцаў, дык фірма можа загінуць. Выпуск незалежных газетаў "вісіць на валаску"... У любы момант можа адбыцца зрыў, хаця друкарскі станок будзе працаваць круглыя суткі. Але мы плануем абараняць свае правы. Мы бачым шматлікія парушэньні ў дзеяньнях падатковай інсьпекцыі".

***З выступу Паўла Жука***: "Я думаю, што дзеяньні ўладаў нельга матываваць чыста падатковымі і судовымі "разборкамі". Гэта проста сродак перапыніць выхад свабоднай прэсы. Улады рыхтуюцца да выбараў. Я маю адназначную інфармацыю пра негалосны загад Дзяржаўнаму камітэту па друку прыпыніць выпуск газетаў на ўсіх прыватных друкарнях, узяць пад кантроль станкі, якія могуць друкаваць вялікія наклады. Дзеяньні, якія прадпрымаюць улады, – гэта проста сродак дзеля спыненьня выхаду незалежных газетаў. Першай "трапіла пад нож" фірма "Мэджык" – найбольш задзейнічаная ў друку незалежных выданьняў".

***З выступу Іосіфа Сярэдзіча***: "Відавочна тое, што ідзе выпіхваньне незалежнай прэсы за межы краіны. Гэта чарговае вялікае глупства ўладаў, якія забываюць пра эфект бумерангу. Вы памятаеце, што нашыя незалежныя газеты ўжо двойчы пабылі ў "эміграцыі" у суседніх дзяржавах. Сярод іх і "Народная воля". Калі на друкарню "Мэджык" будзе павешаны замок, што было ўжо зроблена аднойчы, нам давядзецца ў трэці раз накіравацца ў "эміграцыю" у Літву. Але ўлады забываюць, што за апошні час адбыліся агромністыя зьмены ў тэхнічных працэсах. Мы сёньня здолеем наклады "Народнай волі" ня толькі перакідваць праз мяжу, але нават, калі мяжа будзе перакрытая, здолеем даставіць газету "партызанскімі сьцежкамі". Ёсьць і іншыя каналы, пра якія ўлады нават не здагадваюцца... Лічу, што гэта дзікунства – так сустрэць пачатак трэцяга тысячагодзьдзя ў еўрапейскай краіне. Трэба адумацца! Ёсьць жа ва ўладзе разумныя людзі!"

**Падрыхтавала Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

 





# Заканаўства новае, праблемы захаваньня правоў чалавека — старыя

***1 студзеня 2001 году адпаведнымі законамі ў Беларусі ўведзеныя адразу тры новыя кодэксы: Крымінальны кодэкс, Крымінальна-працэсуальны кодэкс і Крымінальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Распрацоўшчыкі новых кодэксаў у сваіх каментарах указваюць на значную дэмакратызацыю крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага заканадаўства, заканадаўства, якое рэгулюе парадак выкананьня судовых прысудаў. Аляксандр Лукашэнка, які па ўсіх прыкметах распачаў ужо сваю перадвыбарчую кампанію, у прамовах ды выступах вельмі станоўча ацаніў прыняты Крымінальны кодэкс, назваў яго больш гуманным і мяккім ў параўнаньні з папярэднім і ледзь ня самым лепшым у Еўропе. Але ці так гэта? Адразу адзначым, што новы Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь быў прыняты і адобраны Нацыянальным сходам яшчэ ў ліпені 1999 году. Увесьці ў дзеяньне яго, як і Крымінальна-працэсуальны і Крымінальна-выканаўчы кодэксы планавалася з 1 студзеня 2000 году. Аднак гэтая справа зацягнулася яшчэ на адзін год. І толькі з пачатку 2001 году, нягледзячы на шматлікія просьбы з боку служачых пракуратураў, судоў і МУС, на ўвядзеньні новага заканадаўства настояў асабіста А. Лукашэнка.***

### *Адрозьненьні новага Крымінальнага кодэксу ад папярэдняга*

Новы кодэкс пашырае сістэму пакараньняў, што прызначаюцца судамі за зьдзейсьненыя злачынствы. Так, згодна арт. 48 Кодэксу, уводзяцца такія новыя формы пакараньняў, як грамадзкая праца, абмежаваньне свабоды, арышт (ён быў уведзены яшчэ ў 1997 годзе, але як санкцыя не прымяняўся). Максімальны тэрмін пазбаўленьня волі вызначаны ў 25 гадоў і, як альтэрнатыва сьмяротнаму пакараньню, прадугледжваецца пажыцьцёвае зьняволеньне. Што датычыцца сьмяротнага пакараньня, дык яно паводле арт. 59 Кодэксу, выкарыстоўваецца "ў якасьці выключнай меры пакараньня" за злачынствы, зьвязаныя з наўмысным пазбаўленьнем жыцьця чалавека пры абцяжарваючых абставінах. Як і раней, сьмяротнае пакараньне ня будзе прымяняцца да непаўнагадовых і жанчын. Новым у гэтым артыкуле зьяўляецца ўвядзеньне максімальнага ўзроставага цэнзу — сьмяротнае пакараньне не ўжываецца супраць мужчын старэйшых за 65 гадоў.

Асаблівая частка новага Кодэксу пачынаецца разьдзелам "Злачынствы супраць міру, бясьпекі чалавецтва і вайсковыя злачынствы", у той час як папярэдні пачынаўся з дзяржаўных злачынстваў. Кодэкс уводзіць новыя віды злачынстваў: такія, як экацыд, генацыд, міжнародны тэрарызм, вярбоўка, навучаньне і выкарыстаньне наёмнікаў, наёмніцтва, парушэньне законаў і звычаяў вайны. Разьдзел "Злачынствы супраць чалавека" дапоўнены такімі артыкуламі, як парушэньне парадку трансплантацыі, прымушэньне да дачы органаў альбо тканак дзеля трансплантацыі. Што тычыцца санкцыяў, дык па частцы артыкулаў яны сапраўды зьменшаныя. У першую чаргу гэта тычыцца службовых злачынстваў, крадзяжу маёмасьці юрыдычных асобаў, гаспадарчых злачынстваў. Зьмяншэньне санкцыяў у новым кодэксе прывядзе да вызваленьня некалькіх тысячаў зьняволеных з беларускіх турмаў, што пры перанаселенасьці іх зьяўляецца палёгкай тым, хто там застанецца ці патрапіць.



Фота "ПнВ".

### *Зьмены ў артыкулах, якія найчасьцей выкарытоўваюцца рэжымам супраць палітычных апанентаў*

Вядома, што і ранейшы кодэкс ня ўтрымліваў палітычных артыкулаў, але, пачынаючы з 1996 году, колькасьць людзей, асуджаных за палітычную дзейнасьць, за свае перакананьні дасягнула некалькіх дзесяткаў. Усе яны прыцягваліся да крымінальнай адказнасьці, а некаторыя і асуджаныя па розных артыкулах Крымінальнага кодэксу. Найчасьцей ужываліся артыкулы, які прадугледжваюць адказнасьць за "злоснае хуліганства" альбо "арганізацыю і актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, што груба парушаюць грамадзкі парадак" (Ю.Хадыка, В. Сіўчык, П. Севярынец, А. Шыдлоўскі, В. Лабковіч, В. Кабанчук, А. Мухін, В. Шчукін і інш.). Іншыя дзеячы апазіцыі былі асуджаныя па эканамічных артыкулах ( У. Кудзінаў, А. Клімаў, М. Чыгір). Аднак як бы ўлады ні маскіравалі свае сапраўдныя намеры, усе гэтыя людзі былі прызнаныя вязьнямі сумленьня, прычым ня толькі беларускімі праваабаронцамі, але і міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі. Дык вось, санкцыі гэтых артыкулаў не зьмяніліся ў бок памяншэньня, а па некаторых — нават павялічыліся. Так, былы арт. 201 (хуліганства) па ч.1 прадугледжваў 1 год пазбаўленьня волі альбо год папраўчых работ, арт. 339 новага Кодэксу да 2 гадоў, а ч.2, адпаведна – 6 гадоў пазбаўленьня волі – замест ранейшых 5. Абедзьве часткі прадугледжваюць у якасьці пакараньня арышт да 6 месяцаў. Нагадаем, што дзеяньні А.Шыдлоўскага, В.Лабковіча, П.Севярынца былі кваліфікаваныя менавіта як злоснае хуліганства, зьдзейсьненае з "асаблівай дзёрзкасьцю і цынізмам". Былы арт. 186.3, а цяпер арт. 342 КК РБ (арганізацыя дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак альбо актыўны ўдзел у іх) адносна санкцыі пазбаўленьня волі не зьмяніўся (3 гады пазбаўленьня волі), але прадугледжваецца арышт да 6 месяцаў ці

(Працяг на стар. 4)



 

# Заканаўства новае, праблемы захаваньня правоў чалавека — старыя

(Пачатак на стар. 3)

абмежаваньне волі тэрмінам да 3 гадоў. Шмат якія акцыі апазіцыі пасьля іх разгонаў кваліфікаваліся менавіта як "групавыя дзеяньні, што груба парушаюць грамадзкі парадак". Новы Кодэкс уводзіць яшчэ два артыкулы, якія могуць датычыць як прадстаўнікоў апазіцыі, так і прадстаўнікоў незалежных СМІ. Гэта арт. 367 (паклёп у адносінах да Прэзідэнта РБ) і арт. 368 КК РБ (абраза Прэзідэнта РБ). Абодва артыкулы, дарэчы, прадугледжваюць пазбаўленьне волі да 2 гадоў. Гэта супярэчыць прынятым у Еўропе прынцыпам. Неяк у Аўстрыі быў скандал, калі адзін з журналістаў назваў уплывовага палітыка "дурнем". На журналіста наклалі штраф, але ён абскардзіў прысуд у Еўрапейскім судзе па правах чалавека. Суд задаволіў скаргу журналіста, а ў сваім вердыкце ўказаў, што журналіст не псіхіятр, і ягоная высновa не дыягназ, а палітык на тое і публічная асоба, каб выслухоўваць на свой адрас не заўсёды прыемныя словы. Дарэчы, кодэксы заходніх еўрапейскіх краінаў нормаў, падобных беларускім, ня ўтрымліваюць. Тое ж датычыцца і Крымінальнага кодэксу нашых суседзяў, да прыкладу, Польшчы.

Такім чынам палёгкі для апазіцыйных лідэраў і актывістаў новы Крымінальны кодэкс не прадугледжвае.

### *Наваўвядзеньні ў Крымінальна-працэсуальным кодэксе*

Першыя ацэнкі новага Крымінальна-працэсуальнага кодэксу з боку юрыстаў-практыкаў досыць крытычныя. Хоць ён і ўводзіць некаторыя новыя, прагрэсіўныя рэчы, але шмат па якіх важных момантах зьяўляецца больш жорсткім, чым папярэдні, значна абмяжоўвае правы абвінавачваемага і магчымасьці ягонай абароны. У першую чаргу трэба адзначыць тое, што А. Лукашэнка асабіста выкрэсьліў з праекту Крымінальна-працэсуальнага кодэксу разьдзел, які прадугледжваў увядзеньне суда прысяжных. Яшчэ ў 1992 годзе, калі паўстала пытаньне рэфармаваньня судовай сістэмы ў Беларусі, прадугледжвалася ўвядзеньне суда прысяжных. Але гэтыя намеры так і засталіся на паперы, а ўвядзеньне суда прысяжных аднесенае на 2015 год. Нежаданьне ўладаў зрабіць гэта цяпер зразумелае, бо суд прысяжных можа пазбавіць іх магчымасьцяў уплываць і кантраляваць "незалежную" галіну ўлады. Ня ўводзіцца новым Кодэксам і апеляцыйны парадак абскарджаньня прысудаў.

Другі важны момант гэта тое, што, паводле арт. 44 КПК, правы асобы могуць абараняць толькі адвакаты па пастанове органу, які вядзе сьледзтва альбо па хадайніцтве падазраваемага ці абвінавачваемага, у якасьці абаронцы могуць быць дапушчаныя ягоныя сваякі ці законныя прадстаўнікі. Такім чынам, новы Кодэкс не прадугледжвае ўдзелу ў абароне грамадзкіх абаронцаў. Гэта супярэчыць арт. 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім сказана, што кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыцьцяўленьня сваіх правоў і свабодаў, у тым ліку права ў любы момант карыстацца дапамогай адваката ды іншых сваіх прадстаўнікоў. Калі ўлічыць, што пасьля скасаваньня ў 1997 годзе інстытуту прыватных адвакатаў дзяржава мае дзейсныя рычагі ўплыву на іх, такі стан рэчаў можа прывесьці да істотных парушэньняў правоў на юрыдычную абарону. Чалавек ня зможа запрасіць дзеля сваёй абароны юрыста з праваабарончых арганізацыяў. Яшчэ адно "наватарства", якое ўводзіцца новым Працэсуальным кодэксам, гэта тое, што абвінаваўчае заключэньне па справе будзе рыхтавацца пракуратурай, а ня сьледчым, як раней. Аднак і тут ёсьць істотныя праблемы, бо згодна з арт.арт. 260-265, абвінавачваемаму па заканчэньні сьледзтва выдаецца толькі копія пастановы аб прыцягненьні ў якасьці абвінавачваемага і копія пастановы пракурора аб накіраваньні справы ў суд. Само абвінаваўчае заключэньне абвінавачваемаму не выдаецца. Гэта сур'ёзна ўскладняе ягонае становішча, фактычна пазбаўляе магчымасьці падрыхтавацца да ўласнай абароны, вывучыць довады сьледзтва і пракуратуры, падрыхтаваць свае аргументы перад пачаткам судовага слуханьня.

Калі ў суда ўзьнікне неабходнасьць у перакваліфікацыі абвінавачаньня на больш цяжкае альбо ў прад'яўленьні новага, больш цяжкага абвінавачаньня, суд, па хадайніцтве боку абвінавачаньня, абвяшчае перапынак на 10 дзён для складаньня новага абвінавачаньня. Калі суд лічыць доказы недастатковымі, у такім выпадку толькі па хадайніцтве бакоў прыпыняецца працэс і прапануецца дзяржаўнаму абвінаваўцу арганізаваць новае расьследваньне, якое абвяргае альбо пацьвярджае абвінавачаньне. Пасьля правядзеньня неабходных сьледчых дзеяньняў прыпыненае судовае паседжаньне аднаўляецца. Згодна з арт. 356 КПК РБ, прысуд суда можа быць толькі абвінаваўчым і апраўдальным. Як бачым, адсутнічае накіраваньне на дадатковае дасьледваньне па ініцыятыве суда. Пры сёньняшняй сітуацыі гэта азначае, што суды будуць выносіць абвінаваўчыя прысуды нават калі ў справе існуюць сур'ёзныя супярэчаньні, бо, як паказвае практыка апраўдальныя прысуды ў нашай краіне выносяцца вельмі рэдка.

Новым у Кодэксе зьўяляецца ўвядзеньне некаторых відаў мераў стрымaньня, якія раней не прадугледжваліся. Гэта заклад (залог) і хатні арышт. Што тычыцца закладу, дык гэта сапраўды перадавая і дэмакратычная мера, але ў сітуацыі Беларусі наўрад ці атрымае шырокае выкарыстаньне. Заклад заключаецца ва ўнясеньні падазраваемым, абвінавачваемым альбо іншай фізічнай асобай у бюджэт краіны грошай для забесьпячэньня яўкі. Сума закладу вызначаецца органам, які вядзе сьледзтва, з улікам плацёжаздольнасьці абвінавачваемага, цяжкасьці злачынства, але павінна быць ня менш за 500 мінімальных заробкаў. Цікава, хто пры сёньняшняй эканамічнай сітуацыі здольны заплаціць такія грошы? Хатні арышт заключаецца ў забароне выхаду з жыльля цалкам альбо ў вызначаны час, забароне тэлефонных перамоваў і г.д. Гэтая мера, праўда, тады незаконная, была пасьпяхова адпрацаваная на былой старшыні Нацбанку Т. Віньнікавай.

Напрыканцы некалькі словаў наконт некаторых новых відаў пакараньня, што ўводзяцца цяперашнім Крымінальным кодэксам. У першую чаргу пра арышт і абмежаваньне волі. Арышт заключаецца ва ўтрыманьні зьняволенага ва ўмовах строгай ізаляцыі тэрмінам ад 1 да 6 месяцаў. Арышт не выкарыстоўваецца адносна асобаў, што не дасягнулі 16 гадоў, цяжарных жанчын, жанчын і адзінокіх мужчын, што маюць дзяцей ва ўзросьце да 14 гадоў, альбо дзяцей-інвалідаў, а таксама інвалідаў 1 і 2 групаў. Згодна з новым Крымінальна-выканаўчым кодэксам, арышты адбываюцца па месцы асуджэньня ў арыштанцкіх дамах. Арыштаваныя ўтрымліваюцца ва ўмовах строгай ізаляцыі, ім не прадастаўляюцца спатканьні, не дазваляецца атрыманьне перадачаў, за выключэньнем пасылак з рэчамі першай неабходнасьці і вопраткай па сезоне. Перамяшчэньне без канвою не дазваляецца. Непаўнагадовым асуджаным прадастаўляюцца кароткатэрміновыя спатканьні адзін раз на месяц працягласьцю да 4 гадзінаў са сваякамі ці асобамі, што замяняюць бацькоў. Асуджаныя маюць права на штодзённую прагулку ня менш 1 гадзіны, непаўнагадовыя – 1,5 гадзіны. За парушэньне рэжыму зьняволеныя могуць быць накіраваныя ў карцэр да 10 сутак.

Пакуль невядома, дзе будуць гэтыя арыштанцкія дамы. Ходзяць чуткі, што для гэтых мэтаў будуць перарobленыя спецпрыёмнікі-разьмеркавальнікі. Ведаючы ўмовы ўтрыманьня там на ўласнай скуры, я магу ўявіць сабе ўвесь жах, які чакае чалавека, зьмешчанага туды на 6 месяцаў, нават са штодзённай аднагадзіннай прагулкай. Санкцыю, якая прадугледжвае арышт, між іншым, утрымліваюць амаль усе артыкулы КК РБ.

Абмежаваньне волі адбываецца ў адкрытых установах, у месцах вызначаных органамі МУС, з абавязковым прыцягненьнем да працы і пад наглядам. Гэта ня што іншае, як старая вядомая "хімія". Выносіцца абмежаваньне волі тэрмінам да 5 гадоў.

**В. Стэфановіч.**

# Сафія Пагсьлі: "Сітуацыя ў Беларусі цяжкая..."

2000 год прынёс незалежным беларускім СМІ шматлікія выпрабаваньні – масавыя арышты журналістаў падчас Дня Волі (25 сакавіка), начныя абрабаваньні рэдакцыяў і зьнікненьні інфармацыі з кампутараў, зьбіцьцё журналістаў нявядомымі асобамі, канфіскацыі газетных накладаў, выхад газетаў з белымі плямамі, скарачэньні накладаў незалежных выданьняў. Пра тое, што ў Беларусі парушаецца прынцып свабоды слова, вядома далёка за межамі нашай краіны. Таму ў Беларусь прыязджаюць міжнародныя назіральнікі з мэтай правядзеньня маніторыгу.

Сафія ***Пагсьлі*** прыехала ў Беларусь як міжнародны назіральнік, яна зьяўляецца супрацоўніцай Міжнароднага цэнтру супраць цэнзуры "Artikle19". Спадарыня ***Пагсьлі*** наведала Праваабарончы цэнтр 'Вясна" і распавяла пра дзейнасьць сваёй арганізацыі:

"Асноўная функцыя Міжнароднага цэнтру супраць цэнзуры "Artikle19" – збор інфармацыі і падрыхтоўка дакладаў, якія пасьля распаўсюджваюцца па міжнародных арганізацыях, а таксама ў ААН. Штаб-кватэра "Artikle 19" знаходзіцца ў Лондане. Мы займаемся абаронай свабоды слова ў Еўропе, Афрыцы і крыху – у Азіі. Супрацоўнічаем з арганізацыямі ў Венгрыі, Румыніі, Украіне, ёсьць офіс у Паўднёвай Афрыцы, там працуюць 4 чалавекі. Наша арганізацыя невялікая – усяго 15 супрацоўнікаў.

Я буду жыць у Беларусі год, кабназіраць, як захоўваецца тут прынцып свабоды слова, у прыватнасьці, свабода прэсы. Апрач таго, мне вельмі цікава і карысна ведаць, чым займаецца ГА ПЦ "Вясна" і іншыя няўрадавыя арганізацыі.

Але галоўная мая мэта – зьбіраць інфармацыю пра парушэньне свабоды слова, асабліва ў рэгіёнах, бо пра тое, што адбываецца ў беларускіх рэгіёнах, зусім мала інфармацыі. Практычна зусім невядома, што там адбываецца. Таму я буду езьдзіць па Беларусі, наведваць рэдакцыі рэгіянальных незалежных газетаў. Я буду прысутнічаць на судовых працэсах і працаваць у Беларускай асацыяцыі журналістаў. Я дапамагаю БАЖ як кансультант — раю, якім чынам лепш распаўсюджваць па міжнародных арганізацыях інфармацыю пра парушэньне прынцыпу свабоды слова. Што я буду рабіць далей у Беларусі – ня ведаю, залежыць ад сітуацыі.



Сафія ПАГСЬЛІ

Мне 25 гадоў, нарадзілася ў Англіі. Бацькі – навукоўцы, бацька выкладае права ва ўнівэрсітэце, мама – археолаг, вядзе раскопкі ў Турцыі. У мяне дзьве сястры, адзін брат. Усе вучацца ва ўнівэрсітэце. Я філолаг, вучылася ў Англіі ва ўнівэрсітэце, пасьля — год у Расіі (у Варонежы і Пецярбургу), адзін год вывучала ў Варшаве палітыку і права. Працавала ў Бельгіі. У "Artikle19" працую са жніўня 2000 году. Мяне па кантракце накіравалі на год у Беларусь. У "Artikle19" быў патрэбны чалавек, які павінен быў займацца сітуацыяй у Беларусі. Я падумала: "Можа быць, гэта цікава? Можа быць, я буду гэтым чалавекам?" Хаця ў той час я яшчэ практычна нічога ня ведала пра Беларусь. Калі я знаёмлюся з новымі людзьмі ў Беларусі, у мяне пытаюцца: "Як табе ў нас?" Але мяне нельга зьдзівіць і напалохаць, я дастаткова доўга пражыла ў Варонежы. Але, вядома, сітуацыя ў Беларусі цяжкая. Людзям, якія жывуць у Лондане, цяжка ўявіць, што так можа быць".

**Падрыхтавала**
**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

# У праве на абарону — адмовіць

## *Генеральная пракуратура РБ не дала дазволу жонцы былога прарэктара Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытуту Уладзіміра Раўкова выступіць у якасьці абаронцы мужа ў крымінальным працэсе*

8 студзеня Наталя Раўкова зьвярнулася ў Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна" з просьбай дапамагчы ў рэалізацыі яе законнага права быць абаронцам свайго мужа падчас крымінальнага працэсу. Наталя Раўкова – жонка былога прарэктара Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытуту Уладзіміра Раўкова, які знаходзіцца пад вартай 17 месяцаў па абвінавачаньні ў хабарніцтве. У заяве ў ГА ПЦ "Вясна" Н.Раўкова піша: "У траўні 2000 г. я зьвярнулася з лістом на імя сьледчага пра допуск мяне абаронцам па справе майго мужа згодна арт.49 ч.3 КПК РБ. Я атрымала адмову са спасылкай на адсутнасьць у мяне юрыдычнай адукацыі і права займацца адвакацкай дзейнасьцю. У адказ на наступныя звароты на імя Галоўнага пракурора мне паведамілі, што перапіска са мною скончаная ў адпаведнасьці з Законам РБ "Аб зваротах грамадзянаў". Згодна з арт.62 Канстытуцыі РБ я абскардзіла ў судовым парадку парушэньне маіх правоў службовай асобай — сьледчым пракуратуры РБ

20.11. 2000 году суд Цэнтральнага раёну г.Гомелю прыняў рашэньне аб адмове ва ўзбуджэньні справы. Гэтая адмова была матываваная тым, што Наталя Раўкова ня можа быць абаронцам свайго мужа, бо ўжо выступала ў гэтай справе ў якасьці сьведкі. Наталя Раўкова ў сваю чаргу сьцьвярджае, што паказаньняў яна не давала. Больш за тое, 21 чэрвеня 2000 году яна напісала адмову ад дачы паказаньняў, бо, згодна з арт. 289 ч.4 КПК РБ, яна мае на гэта права "як бліжэйшая сваячка".

Згодна з арт.62 Канстытуцыі РБ, Н.Раўкова мае права быць прадстаўніком свайго мужа ў судзе. Юлія Чыгір (жонка былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра) і Сьвятлана Уласава (дачка Васіля Лявонава – былога міністра сельскай гаспадаркі) скарысталі сваё права і выступілі ў судзе абаронцамі сваіх блізкіх.

Уладзімір Раўкоў знаходзіцца ў рэспубліканскай бальніцы Камітэта па выкананьні пакараньняў пры МУС. Яго здароўе пагоршылася, па меркаваньні жонкі, выніку выкарыстаньня падчас допытаў псіахатропных рэчываў і галадоўкі, якую У.Раўкоў праводзіў ў СІЗА. Знаходзячыся ў бальніцы У.Раўкоў ня здолеў азнаёміцца з матэрыяламі сваёй справы пасьля заканчэньня папярэдняга сьледзтва. У выніку, у парушэньне арт. 200 КПК РБ, матэрыялы справы былі перададзеныя ў суд.

Суд над Уладзімірам Раўковым адбудзецца 13 лютага ў г.Гомелі. Справа будзе разгледжаная выязной Вайсковай калегіяй Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Згодна з новым Крымінальна-працэсуальным кодэксам, больш не прадугледжваецца накіраваньне справы судом на дадатковае расьследаваньне. Цяпер судзьдзя павінен разгледзець справу па сутнасьці і вынесьці абвінавачае альбо апраўдальнае рашэньне.

**Інфармацыйны аддзел**
**ГА ПЦ "Вясна".**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

***з 1 па 5 студзеня*** ў Беларусі прайшоў страйк прыватных прадпрымальнікаў. У акцыі прынялі ўдзел звыш 150 тысячаў чалавек (каля 90 адсоткаў усіх прадпрымальнікаў краіны). Патрабаваньні засталіся ранейшымі: адмена пастановы Дзяржаўнага мытнага камітэту "Аб мытным афармленьні тавараў" у частцы, што тычыцца індывідуальных прадпрымальнікаў, і прыняцьце зьменаў у дэкрэты прэзідэнта аб канфіскацыі тавараў у прадпрымальнікаў. Улады ніяк не адрэагавалі на страйк, а таму страйкам заявіў, што пачынае падрыхтоўку да новага, цяпер ужо бестэрміновага страйку прадпрымальнікаў.

***У ноч з 5 на 6 студзеня*** ў Віцебскай працоўнай калоніі №1 для непаўнагадовых злачынцаў адбыўся бунт зьняволеных, які быў жорстка перапынены з дапамогай штурму казармы амапаўцамі. Прычынай масавых беспарадкаў, па адной з версіяў, стала зьмяшчэньне ў ізалятар некалькіх зьняволеных за курэньне. Непаўнагадовыя вязьні, заблакаваўшыся ў адной з казармаў, сталі патрабаваць вызваленьня сваіх таварышаў. Потым дадаліся яшчэ патрабаваньні адмены хаджэньня строем з песьнямі, дазволу забіраць з сабою са сталоўкі недаедзеныя прадукты і нарэшце — зьмены адміністрацыі турмы... Падчас штурму амапаўцы ўжывалі гумавыя дубінкі і сьлезацечны газ. Ёсьць пацярпелыя з абодвух бакоў.

***9 студзеня*** Міжнародная ліга правоў чалавека даслала ліст А.Лукашэнку, дзе выказала сур'ёзную заклапочанасьць фактамі ўціску ГА ПЦ "Вясна". Выканаўчы дырэктар Міжнароднай лігі правоў чалавека Кэтрын Фіцпатрык сьцьвярджае, што «папярэджаньні Мінюсту аказваюць чаткай кампаніі перасьледу ў адносінах да гэтай і іншых праваабарончых групаў Беларусі, якія адкрыта і бескампрамісна адстойваюць правы чалавека». Кэтрын Фіцпатрык даводзіць А.Лукашэнку, што «Беларусь ня зможа разглядацца як частка Эўрапейскай супольнасьці, пакуль урад ня прыме належныя захады па захаваньні і падтрымцы асноўных свабодаў», і заклікае беларускія ўлады спыніць перасьлед «Вясны» ды іншых праваабарончых арганізацыяў.

***9 студзеня*** карэспандэнт БелаПАН ***Генадзь Барбарыч*** быў выкліканы ў пракуратуру г. Мінску ў сувязі з публікацыяй "Дзіма: новыя надзеі" у газеце "Народная воля" (за 6 студзеня 2001 году). Супрацоўнікаў пракуратуры цікавіла: адкуль журналісту сталі вядомыя факты, выкладзеныя ў артыкуле. Допыт журналіста быў запратакаліраваны. Г.Барбарычу прапанавалі падпісаць паперу аб "неразгалошваньні" таямніцы сьледзтва, але журналіст катэгарычна адмовіўся гэта рабіць.

***9 студзеня*** Мінскі гарадзкі суд разгледзеў скаргу ***Уладзіміра Кішкурны*** і прызнаў незаконнымі дзеяньні супрацоўнікаў Цэнтральнага РУУС г. Мінску ў сувязі з адміністратыўным затрыманьнем Уладзіміра Кішкурны 15 верасьня 2000 году.

***9 студзеня*** ў судзе Ленінскага раёну г. Брэсту павінна было адбыцца судовае паседжаньне па справе затрыманых падчас сьвяткаваньня гадавіны абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека 10 сьнежня 2000 году. У той дзень былі затрыманыя і правялі ноч у ізалятары часовага ўтрыманьня ***Ул. Вялічкін, Я. Бяласін, К.Данько, С.Бахун і А. Дыдышка***, на якіх былі складзеныя пратаколы адміністратыўнага правапарушэньня па арт. 167-1 (правядзеньне несанкцыянаванага пікету) і арт. 166 КаАП РБ (непадпарадкаваньне законнаму распараджэньню ці патрабаваньню супрацоўніка міліцыі). На судовым паседжаньні прысутнічалі юрыдычны дарадца пасла АБСЕ у Беларусі Надзея Дударава і шматлікія прадстаўнікі СМІ, але разгляд справы быў перанесены на 12 студзеня.

***10 студзеня*** адзін з найвядомейшых беларускіх паэтаў ***Алесь Разанаў*** пакінуў Радзіму. Ён накіраваўся ў Германію па запрашэньні Міжнароднага парламенту пісьменьнікаў. Напярэдадні ад'езду Алесь Разанаў даў інтэрв'ю карэспандэнту "Белорусской деловой газеты" Сяргею Шапрану. Ён сказаў, што паэты зьязджаюць "надоўга", "калі пісьменьнік застаецца бяз сродкаў на існаваньне. Калі напісаная ім кніга гадамі бяз руху ляжыць у выдавецтве". А таксама: "Лукашэнка ўжо ня выйграў, але яшчэ і не прайграў. За час свайго кіраваньня ён прынізіў Беларусь, паставіў у небясьпечную залежнасьць ад сваіх неўраўнаважаных памкненьняў нашую Незалежнасьць... Людзі занадта стаміліся, зашмат расчараваньняў і чаканьняў скамечана". Нагадаем, што за межамі Беларусі цяпер жывуць некалькі беларускіх літаратараў з гучнымі імёнамі: Васіль Быкаў — у Германіі, Уладзімір Някляеў — у Фінляндыі, Сьвятлана Алексіевіч — у Італіі.

***10 студзеня*** скончыўся 18-месячны тэрмін утрыманьня пад вартай Зьміцера Абадоўскага (сына вядомага магілёўскага праваабаронцы Сяргея Абадоўскага), які быў затрыманы 10 ліпеня 1999 г. Згодна з ч.2,4,6 арт. 127 КПК РБ, прынятага з 1 студзеня 2001г., далейшы працяг тэрміну ўтрыманьня пад вартай падчас папярэдняга сьледзтва не дапускаецца, і абвінавачваемы падлягае неадкладнаму вызваленьню з-пад варты. Пры гэтым у адносінах да абвінавачваемага павінна быць прымененая іншая мера стрыманьня. Нагадаем, што справа З. Абадоўскага пасьля судовага разгляду была накіраваная на дадатковае расьсьледваньне. Разам з тым новы КПК не прадугледжвае "вылічэньне" з агульных тэрмінаў утрыманьня пад вартай часу знаходжаньня справы ў судзе, бо адсутнічае само палажэньне аб "накіраваньні справы на дадатковае расьсьледваньне судом". 9 студзеня абаронцам З. Абадоўскага ягоным бацькам С.Абадоўскім было заяўленае хадайніцтва сьледчаму УСК пры МУС па Магілёўскай вобласьці Гарадкову І.І. аб вызваленьні сына не пазьней 10 студзеня, але сьледчым было прынятае рашэньне вынесьці Пастанову па гэтым хадайніцтве ў трохдзённы тэрмін, што азначае ў дадзеным выпадку парушэньне законных тэрмінаў утрыманьня пад вартай абвінавачваемага. Абаронца Сяргей Абадоўскі накіраваў скаргу на імя пракурора Магілёўскай вобласьці, дзе выклаў законныя патрабаваньні адносна вызваленьня сына з-пад варты.

***11 студзеня*** ў Мінску Беларуская асацыяцыя журналістаў правяла прэс-канферэнцыю з нагоды пагрозы закрыцьця прыватнай ***друкарні "Мэджык"***. У прэс-канферэнцыі прынялі ўдзел дырэктар "Мэджыка" Юры Будзько, галоўныя рэдактары газетаў Іосіф Сярэдзіч ("Народная воля"), Павел Жук ("Наша Свабода").

***12 студзеня*** ў судзе Ленінскага раёну г. Брэсту трэці раз пры перапоўненай зале разглядалася справа грамадзянаў ***А.Дыдышка, К.Данько, У.Вялічкіна, С.Бахуна, Я.Бяласіна***. Пасьля дзьвюх гадзінаў слуханьня судзьдзя А.Міранюк перанёс разгляд справы на 15 студзеня 2001 году ў сувязі з адсутнасьцю сьведкаў, выкліканых у суд з боку міліцыі. На судзе прысутнічалі прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыыі і дарадца Пасла АБСЕ ў Беларусі Надзея Дударава.

***12 студзеня*** газета "Наша Свабода" надрукавала "Урачэбнае заключэньне" аб стане псіхічнага здароўя А.Лукашэнкі. Урач-псіхатэрапеўт З.Шчыгельскі паставіў дыягназ: "памяркоўная мазаічная псіхапатыя з перавагаю рысаў паранаідальнага і дысацыяльнага растройства асобы". Чалавека з такім дыягназам нельга браць на службу ў войска нават у мірны час. 15 студзеня стала вядома, што пракуратура зацікавілася гэтай публікацыяй і напрацягу бліжэйшых дзён павінна вызначыць, якія захады будуць прынятыя да рэдакцыі газеты.



***9 студзеня** а 8 гадзіне раніцы супрацоўнікамі падатковай інсьпекцыі было апячатанае друкарскае абсталяваньне **выдавецтва "Мэджык"**.*

# Яна ніколі не шукала лёгкіх шляхоў

**У апошні дзень XX стагодзьдзя ў Мінску ад цяжкай хваробы памерла вядомая актывістка дэмакратычнага руху Вера Церлюкевіч...**

Ёй вельмі пасавала яе імя – Вера. У гэтай жанчыны было столькі сілы духу і жыцьцёвай энергіі, што іх, здавалася, магло б хапіць на некалькіх іншых людзей, маладзейшых узростам, але ўпалых духам і ўшчэнт зьнявераных.

"Знакамітая апазіцыянерка", "легенда мінскага дэмакратычнага супраціву" – гэтак Веру Церлюкевіч часьцяком называла незалежная беларуская прэса. Журналісты неаднойчы прызнаваліся, што ў іх узьнікае жаданьне занатоўваць выказваньні Веры Максімаўны ў асобны нататнік – настолькі гэтая жанчына *была вострай на слова*. Памятаю, як на першым пасяджэньні па разглядзе крымінальнай справы былога кіраўніка ўраду Міхаіла Чыгіра зала гарадзкога суда не магла зьмясьціць усіх, хто жадаў прысутнічаць на працэсе, на ганку стаялі ланцугі міліцыі, а судзьдзя скардзіўся людзям у зале на адсутнасьць большага памяшканьня і кампетэнцыі, каб вырашыць пытаньне з ім. "Ну дык зьвярніцеся да таго, у каго ёсьць такая кампетэнцыя! Няхай Лукашэнка дасьць загад арэндаваць лядовы палац. А яшчэ лепш – цырк: там суду над Чыгіром самае месца!" – *параіла судзьдзям* і міліцыянтам Вера Церлюкевіч з апошняга шэрагу крэслаў.

Мы пазнаёміліся з ёю на адным з мітынгаў гарачай мінскай вясны 1996-га. Вера Максімаўна была вельмі камунікабельная і гаваркая, лёгка сыходзілася з людзьмі проста на вуліцы. Памятаю, як у той жа год пасьля масавых затрыманьняў дэманстрантаў міліцыяй я сустрэла яе на шэсьці апазіцыі ў рабочай вопратцы. Ватоўка, вязаная шапачка, цёплыя боты... "А ў мяне яшчэ і пайка з сабой ёсьць! — сказала мне Вера Максімаўна, быццам адчуўшы некаторае зьдзіўленьне. І паказала невялікі пакунак: — Гэта хлеб і сала, яны ў камеры не сапсуюцца. Няхай цяпер *улады, калі хочуць, саджаюць*! Я падрыхтавалася". Аказалася: ватоўка патрэбная, каб ямчэй накрывацца на нарах так званых "Прылукаў" — прыёмніку-размеркавальніку. Па словах Веры Церлюкевіч, якраз напярэдадні яе прымусова адправілі на пенсію. Нягледзячы на пенсійны ўзрост, яна хацела яшчэ папрацаваць на трактарным заводзе, якому аддала шмат гадоў жыцьця. Спадарыня Вера сказала мне *напаўжарт*: "*Больш мне няма* чаго губляць: калі хадзіць на ўсе акцыі пратэсту, з працы ўжо дакладна ня выганяць".

Спадарыня Вера ня раз прызнавалася, што адчувае за сабой негалосны нагляд невядомых людзей – верагодна, сьпецслужбаў. Актывістка антылукашэнкаўскага супраціву, яна ніколі не шукала лёгкіх шляхоў вырашэньня праблемаў. Яшчэ напачатку 90-х гадоў Вера Максімаўна была сябрам стачкаму трактарнага заводу. Але найбольш усё ж яна праславілася іншым. Увосень 1999 году Вера Церлюкевіч падала ў *суд на адыёзнага тэлевядучага* А.Зімоўскага, запатрабаваўшы з яго асабіста і Белтэлерадыёкампаніі 3 мільярды беларускіх рублёў кампенсацыі за маральныя страты. Прычынай стаўся выпуск праграмы "Рэзананс" ад 17 кастрычніка 1999 г., у якім Зімоўскі ўжыў шэраг абражальных выразаў на адрас удзельнікаў "Маршу Свабоды-1". Датычыліся абразы і Веры Максімаўны асабіста. У прыватнасьці, выраз пра "трэніраваных адмарозкаў" прагучаў на тле кадраў, дзе пажылая жанчына разгублена азіраецца ў парку Горкага.




Вера Церлюкевіч на "Маршы Свабоды-1".

Зыск разглядаўся судом толькі ў лютым 2000-га. Судзьдзя Партызанскага раённага суда Мінску прызначыў моўную экспертызу дзеля вызначэньня, ці можна лічыць ужытыя Зімоўскім выразы грубымі і абражальнымі. Толькі праз паўгода эксперты выціснулі з сябе адказ: выразы з "Рэзанансу" прызнаныя ацэначнымі, але не абражальнымі. Гэтага можна было чакаць, *і сама сп. Вера* казала, што не мае вялікіх ілюзіяў наконт беларускага суда. Нават відэакасета праграмы *за 17 кастрычніка*, прадстаўленая Зімоўскім суду, зьмяшчала зусім іншыя кадры пры тым жа тэксьце – ужо бяз Веры Церлюкевіч у парку, напрыклад. Касета мела відавочна іншы мантаж... Затое пасьля "Маршу Свабоды-1" В.Церлюкевіч зьнялі з чаргі на кватэру, дзе яна стаяла як інвалід (падзеньне з крану). На заводзе пенсіянерцы адмовілі таксама ў законнай матэрыяльнай дапамозе. "Ідзі са сваім Народным фронтам на рэйкі, і няхай табе там даюць кватэру, уключаючы цябе ў савет ветэранаў!" — так ёй абвясьцілі на заводзе.

Вера Максімаўна аднойчы сказала, што камуністычны рэжым забраў у яе малую радзіму, а рэжым рэваншыста Лукашэнкі хоча прадаць Радзіму вялікую – адабраць незалежнасьць у Беларусі. Малой радзімай Веры Церлюкевіч была вёска Высокі Борак у Краснапольскім раёне Магілёўскай вобласьці – вёска, у ліку некалькіх дзесяткаў іншых беларускіх паселішчаў *закапаная ў зямлю*. Цяпер у тых мясьцінах ніхто не жыве, толькі на Радаўніцу штогод прыязджаюць былыя жыхары на магілкі. І спадарыня Вера таксама езьдзіла туды кожны год...

З жыцьця сышоў ня проста чалавек. Лічу, што гэтая панароднаму інтэлігентная жанчына была жывым сімвалам самой Беларусі. Той Беларусі, якая застанецца ў гісторыі XX стагодзьдзя.

**Тацяна СЬНІТКО.**

# Мы прагнем зьменаў!

*(Пачатак на стар.1)*

Саветам Рэспублікі 30 чэрвеня 2000 г., паводле якога былі ўнесеныя зьмены ў некаторыя нарматыўныя акты, у тым ліку і арт.167.3 КаАП, згодна з якімі адказнасьць за байкот ужо не прадугледжвалася...

*Пагоршылася станові*шча незалежных выданьняў: умовы перарэгістрацыі іх сталі яшчэ больш жорсткімі. Напрыканцы году ўлады фактычна пазбавілі большасьць незалежных выданьняў Мінску выдавецтва, у якім яны друкаваліся: абсталяваньне друкарні "Мэджык" было арыштаванае. Такім чынам, паводле сьведчаньняў назіральнікаў і журналістаў, улады ўжо цяпер пачалі падрыхтоўку да маючых адбыцца сёлета прэзідэнцкіх выбараў.

Так, 2001 год можа стаць вырашальным для будучыні Беларусі на бліжэйшы час. Аб'яднаная апазіцыя пакуль не вызначылася, хто з палітыкаў стане адзіным кандыдатам у прэзідэнты дзяржавы ад дэмакратычных сілаў. Пытаньня пра ўдзел альбо няўдзел у выбарах цяпер няма, бо на карту пастаўлены лёс краіны. Беларускаму народу абрыдла дыктатура, беларускі народ прагне зьменаў. Як і іншыя еўрапейскія народы, мы хочам жыць у вольнай, дэмакратычнай і *незалежнай дзяржаве*. І сёлета гісторыя дае нам яшчэ адзін шанц сьцьвердзіць гэта.

**Андрэй НАЛІВА.**

# Гэтае небясьпечнае слова —"Свабода"

## Вабіць беларускіх старшакласьнікаў і вядзе іх у шэрагі апазіцыі

З дзіцячай злачыннасьцю трэба змагацца. Самымі рознымі сродкамі. З дапамогай сям'і, школы і камісіяў па справах непаўнагадовых. Мэтазгоднасьць гэтае барацьбы не выклікае сумневу. Выпадкі п'янства, крадзяжоў і разбою ў асяродку маладых, на жаль, — справа ледзь не звычайная. Час, як кажуць,біць ва ўсе званы. Але, даруйце, гаворка пойдзе зусім пра іншае. Не пра крымінал (барані Божа!), а пра дзіцячае вальнадумства. Дакладней, пра права на свабоду перакананьняў і на вольнае іх выказваньне, замацаванае артыкулам 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Маецца на ўвазе свабода бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананьняў, свабода шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ўпадабаныя ідэі любымі сродкамі...




Некалькі гадоў таму ўбачыў на адным з паверхаў Маскоўскага райвыканкаму сталіцы вялізны натоўп ля аднаго з кабінетаў. "Па што чарга?" "Паседжаньне камісіі па справах непаўнагадовых!" — абурылася адна з жанчын на мой пасьпешлівы жарт. Спыніўся, бо раптам дзьверы расчыніліся, і ў натоўп бацькоў ды настаўнікаў выскачыў расчырванелы хлопчык. "Ну, што табе?" — спытала адна з жанчын, відаць, маці. "Ды нічога — папярэдзілі. Я ж толькі ў бойцы замешаны ды ўрокі прапускаў. Ці ж гэта грэх! А там яны цяпер, — ківок у бок адчыненых дзьвярэй, — за палітычнага ўзяліся. Вось яму зараз будзе дык будзе!"

Што там за "палітычны" такі, доўга гадаць не давялося. Усё растлумачыў суровы жаночы вокрык з чыноўніцкага кабінету:

— Нягоднік! Хто табе гэты сьцяг у рукі даў?! Колькі заплацілі?! Ды мы цябе за непавагу да ўлады са школы выкінем!

І ня ўзяўся б я за пяро, калі б ня ўпэўненасьць, што гэтая праблема — адна з балючых сёньня для нашага грамадзтва. Будучая беларуская эліта пачынае жыцьцё з барацьбы і прыніжэння. Цудоўна разумее чынавенства, што ў сям'і апазіцыянераў заўжды вырастаюць дзеці-апазіцыянеры — такая дыялектыка беларускага зацяжнога супрацьстаяньня таталітарызму. Абыякавая да ўсяго нацыянальнага дзяржава, прыніжаючы і перасьледуючы першых, не забывае прыціскаць і другіх. У выніку нашыя дзеці рана сталеюць. Ва ўсіх на памяці пікеты, якія праводзілі некалькі гадоў таму навучэнцы Дзяржаўнага нацыянальнага гуманітарнага ліцэю, пратэстуючы супраць нахабнага чынавенскага ўмяшальніцтва ў іх унутраныя навучальныя справы. І дамагліся свайго. Ліцэй гэтымі днямі сьвяткуе дзесяцігодзьдзе, жыве і працуе! І яшчэ прыклад: са 112 затрыманых на маладзёвай лістападаўскай акцыі «Пераменаў!» большасьць — непаўнагадовыя, школьнікі.

Куды ж глядзіць школа?!

Школа ў нас у большасьці па-ранейшаму савецкая, абыякава-аморфная, глядзіць па загадзе райана, аблана і гарана туды ж, куды і Лукашэнка: у бясхмарную беларускую будучыню, дзе няма месца апазіцыянерам і адшчапенцам — ненавісным бэнээфаўцам. І дзеяньне разварочваецца па старым і добра праверaным сталінскім сцэнары. Таму ў чарзе па пакараньне (штраф, пастаноўка на ўлік, перавод у сьпецшколу, выключэньне на тых самых камісіях па справах непаўнагадовых сярод маладых выпівох ды юных раскрадальнікаў заўжды стаяць і тыя, хто нязгодны з рэжымам.

Як ні стараецца адміністрацыя школаў выконваць пагрозьлівыя інструкцыі зьверху, колькасьць школьнікаў-апазіцыянераў з кожным годам няўхільна расьце. Не сакрэт, што ў час любой буйной апазіцыйнай акцыі, якія звычайна адбываюцца ў выходныя дні, усе школы Беларусі на паўваенным становішчы: працуюць да позьняй ночы, ледзь не пад прымусам школьнікі ідуць на дыскатэкі, вечарыны. Мэта зразумелая — усімі сродкамі адцягнуць увагу дзяцей ад шкоднага ўплыву "ворагаў народу", ад удзелу ў маршах, страйках і пікетах. Вельмі цікава, як гэта ўсё сумяшчаецца з абавязковым выкладаньнем правоў чалавека ў межах школьнай навучальнай праграмы? Па прызнаньні настаўнікаў, вывучэньне Дэкларацыі — справа амаль фармальная. А гадзіны, адведзеныя праграмай на гэтыя ўрокі, фіксуюцца ў класных журналах без фактычнага правядзеньня!..

Мне скажуць: супрацьстаяньне ўладам — справа не дзіцячая, лепей бы гэтыя школьнікі не пра правы, а пра свае абавязкі падумалі. Натуральна, кожны чалавек, у тым ліку і непаўнагадовы, мае абавязкі перад грамадзтвам. Але і грамадзтва ў сваю чаргу павінна гарантаваць вольнае і поўнае разьвіцьцё асобы. Ды і Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека сьцьвярджае амаль пра тое ж: "Пры ажыцьцяўленьні сваіх правоў і свабодаў чалавек падвяргаецца толькі тым абмежаваньням, якія ўстаноўлены законам выключна з мэтай забесьпячэньня прызнаньня і павагі правоў і свабодаў іншых і задавальненьня справядлівых патрабаваньняў маралі, парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадзтве" (арт.29). Чуеце, гаворка пра дэмакратычнае грамадзтва? А значыць — не пра нас з вамі...

Камусьці ўсё роўна. Хтосьці прызвычаіўся да рабскага ярма, да маўклівага доўгацярпеньня. А чыёсьці разьняволенае, несапсаванае савецкай, а тым больш лукашэнкаўскай ідэалогіяй сумленьне прагне справядлівасьці (нармалёвая рыса нармалёвага чалавека!) і пратэстуе. Вось і пераўтвараюцца беларускія школьнікі ў палітычных вязьняў рэжыму. Абвінавачаньне ў контрлукашэнкаўскай дзейнасьці ладзіцца ўвобмірг. У стылі лепшых сталінскіх традыцыяў, па старым сцэнары і пад сучасным дэвізам: "Калі дзіцё не ў бэпэсээме, дык яно супраць... нас"

...Дзевяцікласьнік адной з мінскіх школаў Б. (14 гадоў) напярэдадні аднаго з "Маршаў Свабоды" ўвечары расклейваў на слупах улёткі-аб'явы з запрашэньнем да ўдзелу ў мірным сходзе, дазволеным Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека і забароненым Лукашэнкам. Быў затрыманы і зьбіты міліцыянтамі. У пастарунку адмовіўся падпісваць пратакол без прысутнасьці бацькоў. Атрымаў бы дубінкай яшчэ, калі б не прыгразіў сяржанту, што адразу ж, ноччу, здыме пабоі ў паліклініцы.

— Выйсьце ў цябе ўсё роўна адзінае, — езуіцтваваў міліцыянт. — Альбо скажаш, што за грошы гэта рабіў, маўляў, бедны і на марозіва пастаянна не хапае, альбо школу ня скончыш...

Сапраўды, іншага выйсьця ні ў вольнадумнага падлетка, ні ў яго ных бацькоў не было.Так і растлумачыў Б. свае "антызаконныя" дзеяньні на славутай камісіі па справах непаўнагадовых. Бацькам — штраф. А чынавенству — яшчэ адзін "красамоўны доказ" таго, што зноў не абыйшлося без валютнай падачкі з Захаду...

Дарэчы, ва ўправе БНФ гэты самы Б., па-ранейшаму непаўнагадовы, самы часты госьць, актыўны ўдзельнік усіх апазіцыйных мерапрыемстваў. Тлумачыць:

— Ніякіх грошай ніколі мне ніхто не плаціў. Вымусілі міліцыянты на "кампраміс" пайсьці і пайшоў. Здрадай гэта не лічу — школу трэба скончыць... А за свабоду, сваю і бацькоў, змагаўся і буду змагацца!

Адкуль у старшакласьніка такая трывалая ды сьвядомая жыцьцёвая пазіцыя? Бо яму, у адрозьненьне ад некаторых старэйшых і наскрозь савецкіх, хочацца жыць у нармальнай краіне. Дай яму Бог цярплівасьці, волі ды настойлівасьці!

**Алесь ГАРКУН.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"